

ЗА ВАШУ І НАШУ СВАБОДУ!

БЕЛАРУСКІ ВЫБАР

Орган беларускіх выбаршчыкаў Украіны

## АДОЗВА І ВАЛЬНАГА СОЙМУ БЕЛАРУСКІХ НАЦЫЯНАЛІСТАЎ УКРАІНЫ




Мы, беларускія патрыёты і грамадзяне Ўкраіны, сабраліся ў вырашальны дзеля нашай Краіны час.

Негледзячы на абсалютовую лаяльнасьць беларусаў да Ўкраінскай дзяржаўнасьці, мовы і культуры, дзяржаўныя ўлады і пераважная большасьць палітычных сілаў разгарнулі сапраўдны культурна-нацыянальны гэнацыд супраць беларускага этнасу на Ўкраіне. Мэтады падобнага гэнацыду ёсьць татожныя гэнацыду супраць украінскае нацыі, аб якіх вось ужо шмат год кажа ЎА “Свабода”.

Так, пад выглядам дэмакратыі і фармаваньні “палітычнай нацыі”, была прыбрана графа “нацыянальнасьць” з пашпартоў і іншых мэтрычных дакумэнтаў; спынена дзяржаўнае фінансаваньня ўсіх беларускіх клясаў у месцах кампактнага пражываньня беларускага этнаса і г.д. Прыкладаў магчыма прыводзіць шмат, але лепш за ўсё кажа дзяржаўная перапіс: 1989 г. – амаль 900 тысяч беларусаў, а ў 2001 – каля 300 тысяч. Куды падзеліся амаль паўміліёна беларусаў? Яны не зьехалі, не памёрлі, іх проста залічылі да міфічнай “палітычнай нацыі”! Як гэта падобна на пераўтварэньня нацый і народнасьцяў у “адзіны савецкі народ”.

Але кульмінацыя працэсу надышла ў 2004 г., калі па зьмененай канстытуцыі былі прапанаваны выбары выключна па партыйных сьпісах. Нашых людзей лішылі не толькі магчымасьці прадстаўніцтва ў Вярхоўнай Радзе, а нават у абласных і раёных органах улады. І гэта пры тым, што ў некаторых раёнах кампактнага пражываньня беларусаў іх доля складае да 57-69%.

Ці выйграла ад гэтага “украінская дзяржаўнасьць”? Вельмі сумніўна, бо замест лаяльна налаштованых беларусаў, мандаты атрымалі прадстаўнікі пэўнай і ўсім вядомай нацыянальнай меншасьці, схаваныя пад прыгожым сярдэчкам і апяльсінам, камуністы ды мясцовыя манкурты падтрыманыя расейкім капіталам.

*Сёньня сьвядомыя беларусы ня маюць на Ўкраіне ніводанага культурнага цэнтру, ніводнага храма і вымушаны адпраўляць свае богаслужбы па дамам і ў выпадковых памяшканьняў. Няма ніводнае беларускае школы альбо клясу,* калі нават пры дыктатарска-анцінацыянальнам рэжыме ў сучаснай Беларусі падобныя ўкраінскія клясы існуюць. Беларуская грамада засталася адзінай, што ад першага і да апошняга дня стаяла на Майдане і прадстаўнікі якой не былі запрошаны на інагурацыю прэзыдэнта. Прэзыдэнт наведвае грузінскую і армянскую цэркву, мячэць і нават сынагогу, але нябачыць молячыхся на вуліце беларусаў. І ў гэтам яму пераймаюць усе партыі блёку “Наша Ўкраіна” і падкантрольная Ўкраінская Праваслаўная Цэрква Кіеўскага Патрыярхату! Складаецца ўражаньня, што “дэмакратычна-памаранячавы” палітыкум робіць усё, каб справай пераканаць сьвядомых беларусаў у варожам стаўленьні да іх ня толькі прарасейка-іпэрскіх, а і ўкраінскіх сілаў.

Па меркаваньню беларускіх палітолагаў, вышэйвыкладзены тэзіс мае права на існаваньня. Бо сёньня, з больш як 275 тысяч грамадзян Украіны беларускай нацыянальнасьці, 72,3% вызналі сваёй роднай мовай беларускую; 69,7% - прытрымліваюцца правых палітычных поглядаў. Дзяржаўнасьць украінскае мовы падтрымліваюць 81,3%; за дзяржаўнае вызнаньня ўдзельнікаў нацыянальна-вызваленчай барацьбы выступае 77,3%. Пры гэтым 22,3% - лічыць, што сучасны ўкраінскі палітыкум праводзіць палітыку культурна-нацыянальнага гэнацыду беларускае меншасьці, а 71,8% гатовы падтрымаць на выбарах тыя партыі і блёкі, што гарантуюць рэальную падтрымку беларускай нацыянальнай меншасьці ў Украіне.

Менавіта гэтыя лічбы прымушваюць дэнацалізаваныя, псэўданацыянальныя сілы зрабіць усё магчымае, каб выкрэсліць нашых людзей з палітычнага жыцьця і маральна прымусіць не ісьці на выбары альбо прагаласаваць “супраць усіх”. Гэта ўдар ня толькі па беларусам, гэта, па нашаму меркаваньню, часьціна спланаванай акцыя пад умоўнай назвай “Дэмакратычная Ўкраіна без украінцаў”.

Як патрыёты і грамадзяне Ўкраіне мы рэальна ўсьвядомліваем, што захаваньня беларускага этнасу на ўкраінскіх землях напрамкі павязана з захаваньням самой Украіны як менавіта дзяржавы ўкраінцаў. Павяртаньня ўлады ўкраінцам праз прапарцыйнае прадстаўніцтва ў органах заканадаўчай і выканаў-

чай улады ёсьць павяртаньня да палітычна-культурнага жыцьця і беларускай нацыянальнай меншасьці. Але гэта немагчыма без татальнага ачышчаньня ўлады ад сумнай спадчыні расейскай акупацыі і камуністычнага рэжыму. Менавіта таму, **мы вырашылі аддаць перавагу ЎА “Свабода” і будзем заклікаць Беларускую грамаду ў Украіне зрабіць гэтак сама.**

Мы – народ! Мы не дамо сьцерці нас з жыцьця. Мы маем Богам дадзеную мову і культуру. Мы не прышлыя на Ўкраіне, а ад веку жывём на гэтай зямлі разам з украінцамі і прынеслі свій каменчык у падмурак Украінскай дзяржавы і культуры. Крывічанка сьв. Вольга, сьв. Антоні Пячорскі, сьв. княгіня Рагнеда-Анастасія, сьв. Кірыла Тураўскі, Украінскі першадрукар Іван Федаровіч, Кіеўскі мітрапаліт Сільвестр Косаў ды дзясяткі ці нават сотні іншых беларусаў назаўсёды вайшлі ў гісторыю Ўкраіны і часам немагчыма вызначыць якому народу яны належаць больш, а ў віры сучаснай барацьбы на ўкраінскіх майданах побач з блакітнажоўтым заўсёды лунаў бел-чырвона белы сьцяг.

**У нас адзіная мэта!**
**Адзіны шлях!**
**Адзіная перамога!**
**Жыве Беларусь!**
**Слава Ўкраіне!**

Беларускім праваслаўным вернікам на Ўкраіне.
Украінскаму народу.

*Улюбленыя браты і сэстры ва Хрысьце!*
*Сардэчна віншую Вас з сьвятам 16- угодкаў Незалежнасьці Ўкраіны!*
*Малюся каб Вам хаптла мудрасьці і мужнасьці захаваць гэты ўсякаштоўны дар Боскі: жыць на Сваёй Зямлі і славіць Бога Сваёй Мовай.*
*Дабраславеньня Боскае на вас.*

япіскап Баранавіцкі і Бруклінскі Васіль (Касьцюк)
24.08.2007 л.Б.
Пінск

## ПЛЯТФОРМА КАМІТЭТУ БЕЛАРУСКІХ ВЫБАРШЧЫКАЎ УКРАІНЫ

*Усьвядомліваючы, што на дадзенам этапе патрэбна яднаньня ўсіх беларускіх нацыянальных сілаў, мы, дэлягаты І Вальнага сойму беларускіх нацыяналістаў Украіны, адзінагалосна прымаем за плятфрму камітэту беларускіх выбаршчыкаў Украіны праграму* ***“Беларуская Салідарнасьць”***

**1. Беларуская Салідарнасьць** гэта ёсьць **плятформа Беларускага Адраджэньня**, форма ідэйнай лучнасьці паміж беларусамі і пазыцыя змаганьня з акупацыйным антыбеларускім рэжымам. Яе дэклярацыя салідарнасьці простая і надзейная, па прынцыпу *Каліноўскага*:

- Каго любіш?
- Люблю Беларусь.
- Дык узаемна.

**2.** Зьместам беларускага яднаньня ёсьць Беларуская нацыянальная дзяржава. Сымвалам Беларускай дзяржавы ёсьць нацыянальны *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг* і *гэрб Пагоня*.

**3.** *Беларуская Салідарнасьць* стаіць за праўду Беларускага Адраджэньня, якое кажа: **“Не правы чалавека – галоўнае для беларусаў, а незалежнасьць і свабода, бо не бывае “правоў чалавека” пад акупацыяй”**. Трэба змагацца за свабоду і вызваленьне Беларусі, а не прасіць “правоў” у рэжыма і акупантаў. Акупанты правоў не даюць. Яны пакідаюць нам “права” быць рабочым матэрыялам дзеля іхных імпэрскіх інтарэсаў.

**4.** *Беларуская Салідарнасьць* сцьвярджае і абараняе дэмакратычныя каштоўнасьці народнага агульнанацыянальнага кшталту, якія мусяць шанаваць і бараніць усе беларусы перад небясьпекай агрэсіўнай пагрозы з Расеі і перад палітыкай антынацыянальнага рэжыму Лукашэнкі на Беларусі.

**5.** *Беларуская Салідарнасьць* мацуе грунт, кірунак дзеяньняў і ідэі беларускага змаганьня ў абарону беларускай незалежнасьці, мовы, культуры, беларускай нацыянальнай уласнасьці, маёмасьці і беларускай дзяржаўнай сістэмы дэмакратычнага існаваньня нацыі.

**6.** Усіх беларусаў як нацыю злучае і яднае беларуская мова, беларуская гісторыя, беларуская зямля, беларуская культура, беларуская дзяржава і ўся беларуская супольнасьць людзей – Беларускі Народ.

**7.** Усе беларусы, незалежна ад сьветапогляду і палітычных кірункаў, яднаюцца дзеля абароны беларускіх каштоўнасьцяў, беларускіх сымвалаў і беларускіх нацыянальных інтарэсаў.

**8.** Формы дзейнасьці *Беларускай Салідарнасьці* могуць быць рознымі, але заўсёды павінна ўлічвацца антыбеларуская палітыка прамаскоўскага рэжыму на Беларусі і пагроза нашаму нацыянальнаму, культурнаму і дзяржаўнаму існаваньню. Таму ва ўсіх справах – Беларусь перад усім. Трэба шанаваць усё беларускае. Шанаваць беларускую дзяржаўнасьць. Шанаваць беларускую мову і беларускі народ. Шанаваць беларускую зямлю і беларускую культуру. Шанаваць здабытак народнай працы. Беларус беларуса мусіць бараніць перад небясьпекай. Беларус беларусу мусіць дапамагаць. Беларус беларуса павінен падтрымліваць паўсюдна на Беларусі і ва ўсім сьвеце.

## БЕЛАРУСКІ ВЫБАР ДЗЕЙНІЧАЕ: ХРОНІКА ЖНІЎНЯ

**3 жіўня:** Актывісты беларускіх нацыянальных арганізацый з Валынскай, Роўненскай і Львоўскай абласцей Украіны правялі ў Львове І Вальны Сойм беларускіх нацыяналістаў Украіны.

Практычна ўсе прысутныя адзначылі, што адзіная партыя, якая на працягу апошніх трох год аказвала рэальную падтрымку беларускай дыяспары на Ўкраіне, а таксама падтрымлівала барацьбу за вольную і дэмакратычную Беларусь – Усеўкраінскае Аб’яднанне “Свабода”.

Пад адозвай “І Вальнага Сойма беларускіх нацыяналістаў Украіны” ужо сабрана паўтары тысячы подпісаў.

**5 жніўня:** Рашэньня І Вальнага сойму было агучана на з’ездзе ЎА “Свабода” у Кіеве. Дэлягаты шчыра віталі беларусаў.

**10 жніўня:** Беларускія актывісты (грамадзяне Ўкраіны) уключыліся ў выбарчую кампанію

**26 жніўня:** Ва Львове 25-26 жніўня прайшоў міжнародны кінафестываль. У яго рамках, па спрыянню Ўсеўкраінскага аб’яднання “Свабода”, па-за конкурсам быў паказаны дакументальны фільм беларускага рэжысёра Юрыя Хашчавацкага “Плошча”. Беларусы раздалі ў Львове больш за 1000 запрашэньняў на прагляд фільму

На дэманстрацыю фільма на вялікіх экранах на плошчы Валавая сабраліся каля 10 тысяч чалавек.

### Беларусы нягодныя маліцца за Ўкраіну…, бо яны падтрымліваюць УА “СВАБОДА”

На пярэдадні дня Незалежнасьці ўладамі Украіны была анансіравана “міжканфэсійная малітва за Ўкраіну” у Сафіяўскам саборы Кіева, а таксама аналягічныя акцыі ў абласных цэнтрах.

Карыстуючыся дзеячым Законам Украіны аб рэлігійных аб’яднаньнях, наша прэслужба 19 жніўня 2007 г. зьвязалася з сакратарыятам Прэзыдэнта Ўкраіны з просьбай аб далучэньні сьвятароў беларускіх праваслаўных прыходаў на Ўкраіне (знаходзячыхся ў послуху япіскапу Баранавіцкаму Васілю) да гэтае акцыі. Былі дасланы копіі ўсіх дакумэнтаў аб япіскапскай годнасьці самаго ўладыка (рукапакладзены ў япіскапа ярархамі ЎАПЦ) і граматы сьвятароў.

23 жніўня 2007 г. мы зьвязаліся з сакратарыятам Прэзыдэнта і нам у вуснай форме паведамілі, што нам адмоўлена ва ўдзеле ў малітве, бо мы падтрымліваем УА “Свабода”.

Прэс-служба япіскапа Баранавіцкага і Бруклінскага Васіля (Касьцюка)
Пінск

## Ігар Бабкоў
## БЕЛАРУСЬ-УКРАІНА: ПАДАРОЖЖА НА СКРАЙ

*Notre voyage a nous est entiurment imaginaire.*
*Voila sa force.*
***Cйline „Voyage au bout de la nuit”***

Гэты тэкст спрабуе выявіць умовы магчымасьці беларуска-ўкраінскага культурнага дыялёгу, аднавіць для беларускага вока загадку Ўкраіны.

Такая пастаноўка праблемы прадугледжвае некалькі папярэдніх тэзаў.

1. Дыялёг культураў плённа адбываецца тады, калі зададзеныя моманты кантрастнасьці, адрознасьці, непадобнасьці культураў, калі культуры прызнаюць і ўзаемна культывуюць рознасьці, калі паўстае *міт Іншага*. Гэты міт Іншага грунтуецца не на культурантрапалягічнай апазыцыі сваё/чужое, а на гермэнэўтычных стратэгіях узаемнага пры-знаньня, прачытаньня й разуменьня. Дыялёг — гэта заўсёды спрэчка, сутыкненьне пазыцыяў дзеля высьвятленьня сутнасьці рэчаў. Беларуска-ўкраінскі дыялёг — гэта сутыкненьне дзьвюх культураў, што належаць да адной традыцыі: Цывілізацыі Міжмор’я. (Магчымы) беларуска-ўкраінскі дыялёг — гэта спрэчка поўдня й поўначы, вакол-пантыйскай і ваколбалтыйскай культурных зонаў, — у межах аднаго цывілізацыйнага кола, і нават у межах аднаго гістарычнага лёсу.

2. Беларусь і Ўкраіна на працягу апошняга стагодзьдзя эксплюатуюць адваротны міт: аднолькавасьць, паралельнасьць, падобнасьць. У выніку мы маем тое, што можна назваць фэномэнам “фальшывай празрыстасьці”. Беларусь і Ўкраіна адна для адной нібыта празрыстыя й нецікавыя: гарызонт чаканьня клясыфікуе ўсе артэфакты культуры паводле наяўных схемаў, падводзіць іх пад адно суцэльнае паймо падобнасьці й аднолькавасьці, шукаюцца паралелі, а не кантрасты. Паралелі, якія акрамя сваёй паралельнасьці анічога не гавораць.

3. Такая арганізацыя ёсьць вынікам пэўнай настройкі оптыкі культуры, вынікам пэўнага тыпу бачаньня як адно аднаго, так і больш шырокага культурнага кантэксту. У той сыстэме каардынатаў (Захад-Усход), у якой знаходзіць сябе нашае мысленьне (якая навязаная нашаму мысленьню?) і Беларусь і Ўкраіна перажываюць паралельную самаідэнтыфікацыю насуперак:

*Насуперак нэакаляніяльным (расейскім) практыкам дамінацыі й выключэньня.*

*Насуперак заходнім стратэгіям „арыенталізацыі” нашых культураў.*

*Насуперак адмысловаму геапалітычнаму статусу „постсавецкіх прывідаў”.*

*Насуперак нутраной сытуацыі фрагмэнтацыі й распаду „грамадзтва”, насуперак няскончанасьці нашых мадэрнасьцяў.*

Вынікам такім чынам зададзенага кантэксту самаідэнтыфікацыі ёсьць комплекс гераічнай самотнасьці (які прыходзіць на замену комплексу непаўнавартасьці) і дыскурс супраціву.

На восі Захад-Усход мы маем заўсёды post-colonial story пра брыдкае качанятка (крывенькую качачку), якое аніяк не патрапіць стаць лебедзем.

4. Разварочваючы нашыя вочы на іншую сыстэму каардынатаў — Поўнач-Поўдзень, — мы знаходзім, што Беларусь і Ўкраіна не аднолькавыя, а ўзаемададатковыя. Беларусь і Ўкраіна — гэта Інь і Ян, фрагмэнты большай цэльнасьці, якія знаходзяцца ў дачыненьнях узаемнага пярэчаньня, але і ўзаемапрыцягваньня. На восі Поўдзень-Поўнач адбывалася генэалёгія нашай

этнакультурнай прасторы, паўставаньне Цывілізацыі Міжмор’я (цывілізацыйныя імпульсы з поўдню — Кіеўская Русь, Бізантыя, стэп, поўнач — гістарычная Літва, Вільня, Балтаскандыя), нараджэньне нацыяў.

Сёньня на лініі Поўнач-Поўдзень мы знаходзім дзьве няскончаныя мадэрнасьці, што пакутуюць ад адсутнасьці больш шырокага цывілізацыйнага й культурнага кантэксту, такога кантэксту, у якім яны былі б суб’ектамі і творцамі.

Мы знаходзім мадэрнасьці, скіраваныя (падсьвядома) насустрач адна адной, але ўзаемна непрачытаныя.

Ці магчымая для нашых культураў *ідэнтыфікацыя насустрач*?

5. На лініі Поўнач-Поўдзень мы знаходзім супольную ўтопію: Цывілізацыю Міжмор’я.

Паасобку — Беларусь і Ўкраіна — пакутліва вылузваюцца з посткамуністычнай, постсавецкай, посткаляніяльнай прасторы, энтрапійнай у сваёй сутнасьці, зараджанай энэргетыкай распаду, культурнае летаргіі й бяспамяцтва. Шукаючы свае вяршыні, яны ўвесь час азіраюцца на гераічнае мінулае. Ім так не хапае “міту будучыні”, усьвядомленай гістарычнай місіі.

Разам - яны ўтвараюць цывілізацыю Міжмор’я, злучаюць ваколбалтыцкае й ваколпантыйскае культурныя колы. Утапійнасьць (а-тапічнасьць) гэтай цывілізацыі ня мусіць падманваць: любая нацыя ёсьць, у пэўным сэнсе, “сэміятычнай утопіяй”, лякалізаванай нідзе”.

6. Мы мусім рэстаўраваць таемнасьць, таямніцу адзін аднаго й адзін для аднаго. Украіна для Беларусі (як і Беларусь для Ўкраіны) — гэта падарожжа на скрай самога сябе, у прастору, дзе захоўваючы бясьпечнае пачуцьцё тоеснасьці, апынаесься ў іншай сыстэме каардынатаў, у іншым ляндшафце, сярод іншых магчымасьцяў. Дзе ты сам ужо крыху іншы…

Усялякі дыялёг — гэта выхад за межы самога сябе, гэта падарожжа

## Чаму я галасую за ЎА “СВАБОДА” (літы беларусаў):

**Ігар Суднік (Харкаў):** Быць гаспадаром у сваёй хаце – гэта натуральна. Калі на Ўкраіне ўлада не належыць украінцам – гэта жахліва. Толькі любячы свій народ ты пачынаеш паважаць іншых і гэта – УА “Свабода”.

**Сяргей Латышевіч (Роўненская воб.):** Ніводная партыя не клапотіцца аб нацыянальных меншасьцях, апрача ЎА “Свабода”. Прапарцыйнае прадстаўніцтва – гэта адзіны шанс захаваньня нармальнага стаўленьня да ўсіх. Толькі патрэбна быць больш жорсткімі і надаваць прадстаўніцтва выключна гістарычным грамадам!

**Андрэй Кавалёў (Кіеў):** Беларусь – бел-чырвона-белая; Україна блакітна-жоўтая! Падтрымліваая ЎА “Свабода” мы падтрымліваем сябе, падтрымліваем **Вольную Беларусь** і гэта галоўнае.

## Зянон Пазьняк:
## Ідэя стварэньня цэнтралізаванай аб’яднанай Эўропы – небясьпечная

Мая агульная ацэнка такая: сама ідэя стварэньня цэнтралізаванай аб’яднанай Эўропы са сваім урадам, прэзыдэнтам, - яна небясьпечная, бо гэтая ўлада можа пераўтварыцца ва ўладу некантраляваную. Адным словам, гэта ідэя - імпэрская. І народы Эўропы не хацелі б жыць у такой краіне, дзе бюракратыя будзе вырашаць усё.

Гэта - падсьведамая рэакцыя. Народы Эўропы хацелі б жыць у дзяржавах-айчынах, дзе нацыянальныя традыцыі маюць значэньне, традыцыі культуры, свая валюта, свой інтэрас, і, адпаведна, павага да гэтага інтэрасу з боку іншых краінаў і з боку краіны, якая гэты інтэрас мае.

Тое, што прапанавана Францыяй і Нямеччынай, - гэта шлях да цэнтралізаванай Эўропы, якая, урэшце рэшт, мае пагрозу і для правоў чалавека, і для нацыянальных культур. Як бы пра гэта не гаварылі, як бы не абстаўлялі дыпляматычна. Вось гэта асноўная ідэя, якая рухае людзьмі ў Эўропе. Хаця, прычыны могуць быць розныя. У Францыі - гэта прычыны сацыяльнага пляну, людзі ў асноўным былі напалоханыя ўплывам з Усходу таннай рабочай сілы. Гэтая ідэя стварэньня цэнтралізаванай краіны - гэта ідэя памылковая.

Ёсьць іншая ідэя, якая ў Эўрапейскім Зьвязе таксама падтрымліваецца. Гэта - Эўропа Айчынаў. Мне здаецца, глябалісты ня будуць адмаўляцца ад ідэі аб’яднанай, але гэтая ідэя павінна будзе прайсьці карэктыроўку. Я думаю, што пазыцыя Эўропы Айчынаў тут узмоцніцца. Калі гэтага ня будзе зроблена, калі будзе пазыцыя ўпартая даказаць сваё, гэта прывядзе толькі да расколу. Я думаю, будуць зробленыя высновы і карэктыроўка палітыкі. Гэты варыянт – лепшы.

## Віктара Юшчанку просяць расследаваць масавыя расстрэлы пад Гомелем

*Магілы ўкраінцаў, у тым ліку і тых, якія былі растраляны заградатрадамі бальшавікоў у час голаду 1933 г., былі выяўлены яшчэ ў канцы 90-х гадоў XX ст. Вось ужо амаль дзесяць гадоў беларускі актыў дамагаецца ад украінскіх уладаў рэакцыі на дадзеную інфармацыю. Беларускія актывісты намагаліся перадаць дадзеную інфармацыю прэзыдэнту Ўкраіны пад час ягонай візытацыі ў Чарнігаве. Але “дэпутацкая недатаркальнасьць” дзеля існуючай ўлады значна істотней чым магілы суайчыннікаў.*

Прадстаўнікі грамадскага аргкамітэта па ушанаванні памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій звяртаюцца да прэзідэнта Украіны Віктара Юшчанкі з просьбай даць адпаведныя даручэнні кампетэнтным службам па праверцы версіі аб забойствах украінскіх грамадзян пад Гомелем у даваенныя гады.

У звароце зазначаецца, што сёлета пад Гомелем знойдзены і раскапаны незарэгістраваныя магільнікі. “Паводле сведчанняў мясцовых жыхароў, там пахаваны ахвяры сталінскіх рэпрэсій. Ёсць інфармацыя, што ў гэтых мясцінах энкавэдзісты расстрэльвалі не толькі беларускіх грамадзян, але і жыхароў Чарнігаўскай вобласці УССР, прывезеных па чыгунцы ў мястэчка Новая Беліца, якое зараз уваходзіць у межы Гомеля. На жаль, беларускія ўлады не даюць беларускай грамадскасці аніякай інфармацыі пра тое, што рабілася ў навабеліцкіх лясах у гады Вялікага тэрору”, – гаворыцца ў звароце.

Сярод яго падпісантаў сустаршыня аргкамітэта пісьменнік Васіль Якавенка, сакратар аргкамітэта Уладзімір Раманоўскі, гісторык Анатоль Валахановіч, мастак Мікола Купава, старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч і грамадскі дзеяч Вячаслаў Сіўчык.

*Наклад 299 асобнікаў, замова №3764*